

# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamleńni**

№ 12 (646)
Сьнежань 2019 г.

Электронны адрас: *viestki@mail.com*
*P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

# Прэзэнтацыя альманаха "Беларус" і лістападаўскі сход Згуртаваньня "Пагоня"

У суботу, 2 лістапада 2019 году, у Доме Маракоў на Мангэтане прайшоў лістападаўскі сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня", на якім адбылася прэзэнтацыя альманаху "Беларус" за 2019 год. Напачатку сходу старшыня Згуртаваньня "Пагоня" сп. Віталь Зайка прывітаў прысутных і распавёў пра нядаўна прайшоўшыя і пра маючыя адбыцца імпрэзы Згуртаваньня "Пагоня" і заклікаў сачыць за аб'явамі на старонцы "Пагоні" ў Фэйсбуку, каб быць у курсе ўсіх плянаў арганізацыі.

Затым сп. Зайка перадаў слова сп. Сяржуку Сокалаву-Воюшу, вядомаму паэту і сьпеваку, які адкрыў сёлетнюю прэзэнтацыю. Першым выступоўцам быў адзін з аўтараў альманаху, сп. Аляксандар Хацкевіч. Ён прынёс на сход электрагітару і зайграў для прысутных, прасьпяваўшы песьню-баляду "Пра любоў калгасьніка да сваёй каровы", твор у пост-мадэрным агратрэш-стылі, які азмрочыла тая абставіна, што акрамя няўцямнага зьместу (маралізацыя на тэму: што маем – не шануем, як губляем – плачам) выкананы ён быў па-расейску. Аляксандар падзякаваў прысутным за ўвагу, выбачыўся, бо сьпяшаўся на працу, і заклікаў чытаць завяршальную трэцюю частку ягонай казкі "Замак на ўзгорку", апублікаванай у новым выпуску альманаха.




Затым сп. Сокалаў-Воюш даў слова рэдактару альманаху сп. Марату Клакоцкаму, які падзякаваў усім дабрадзеям за падтрымку выданьня і падкрэсьліў, што альманах зьяўляецца сапраўды публічным выданьнем, якое выходзіць выключна на ахвяраваныя дабрадзеямі сродкі і не залежыць ні ад кога. Сёлета трэба пачаць больш інтэнсіўную кампанію па зборы сродкаў, каб назапасіць дастаткова рэсурсаў для падрыхтоўкі наступных выпускаў. Апошні нумар атрымаўся найбольшага памеру ў параўнаньні да ўсіх папярэдніх, і гэта добра, але вымагае большых сродкаў на друк і перасылку яго па розных навуковых і бібліятэчных установах па Амэрыцы і ў сьвеце, улучна з Бацькаўшчынай. Пераважная частка сродкаў выдаткоўваецца менавіта на рассылку. Затым прамоўца спыніўся на гісторыі заснаваньня выданьня, першы выпуск якога пабачыў сьвет у 2007 годзе. "Беларус" меўся быць дадаткам да газэты "Беларус", якую тады таксама рэдагаваў сп. Клакоцкі. Пасьля некалькіх выпускаў альманаху да рэдагаваньня газэты прыйшлі новыя людзі, і шляхі газэты й альманаху цалкам разыйшліся. Але выданьне працягваецца, набірае больш аўтараў і павялічваецца ў памеры. Сярод аўтараў ёсьць розныя людзі, прызнаныя і ўганараваныя творцы і пачаткоўцы.

Прамоўца адказаў на пытаньне пра крытэры адбору твораў: калі аўтар жыве па-за Беларусьсю, ягоныя творы напісаныя па-беларуску і маюць пэўную структуру і сюжэт, якія могуць быць цікавымі для чытачоў, то твор прымаецца да друку. Узровень аўтараў не аднолькавы, але калі чалавек уклаў часьцінку сябе ў твор, адлюстраваў свой досьвед, падае гэта на суд чытачам, дык няма прычыны адмаўляць. Чым больш аўтараў будуць ведаць пра альманах, тым больш шанцаў, што сярод іх адшукаюцца здольныя творцы і ўнікальныя таленты, і гэта будзе толькі на карысьць беларускай прысутнасьці ў Амэрыцы і ў сьвеце. Затым сп. Клакоцкі адказаў на пытаньні пра найбольш упадабаныя творы ў гэтым выпуску, ці сам рэдактар не зьбіраецца апублікаваць нейкі свой твор, і якія ягоныя пляны на будучыню.

Потым са словам пра традыцыю альманахаў на эміграцыі й пра ролю літаратуры ў эміграцыйным жыцьці выступіў культурніцкі й грамадзкі дзеяч, дырэктар Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва д-р Вітаўт Кіпель. Ён пачаў з успамінаў пра сваё дзяцінства, калі ягоны бацька Яўхім Кіпель зь сям'ёю як "нацдэм" быў высланы зь Беларусі ў горад Налінск Вяцкай губэрні ўглыбі Расеі. Туды ж былі высланыя беларускія навуковыя і культурніцкія дзеячы Мікола Азбукін і Мікола Ўлашчык. Адным з успамінаў дзяцінства засталося, як высланыя беларусы, да які часам далучаўся нехта новапрыбылы, гулялі па беразе ракі Камы. "І вось дзядзька Азбукін і дзядзька Ўлашчык часта горача спрачаліся пра літаратуру, да гутаркі далучаўся бацька, і відаць было, што ім гэта вельмі блізка, вельмі патрэбна, што праз гэта яны робяцца бліжэй адзін аднаму, і таму больш здольныя дапамагчы, падтрымаць. І гэта вельмі важна". І пасьля ў беларусаў не бракавала нагодаў для абмеркаваньня літаратуры, і асабліва на выгнаньні. На чужыне літаратура сталася тым сродкам, які лучыў людзей і перахоўваў памяць пра сваю зямлю, Бацькаўшчыну, дарагіх сэрцу людзей. Выдаўніцтва – гэта годная і важная справа, і вельмі добра, што ў Нью-Ёрку штогод выдаецца альманах "Беларус", дзякуючы адданай працы рэдактара, і добра, што ёсьць аўтары, якія даюць для публікацыі свае творы. Хай жа так будзе і надалей,

*заканчэньне на бачыне 2*

# Прэзэнтацыя і сход “Пагоні”

*заканчэньне з бачыны 1*

і трэба падзякаваць сп. Марату Клакоцкаму за ягоную адданасьць і плённую выдавецкую дзейнасьць, за альманах “Беларус” і бюлетэнь “Весткі й Паведамленьні” і пажадаць, каб гэтая справа працягвалася.

Затым сп. Сяржук Сокалаў-Воюш распавёў пра свае ўражаньні ад прачытаных у сёлетнім выпуску тэкстаў, згадаў пра свайго даўняга знаёмага сп. Адама Акуліча, што стаўся новым аўтрам, і пра ягоныя творы. Нажаль, сп. Акуліч ня змог прысутнічаць на прэзэнтацыі.

Тады вядучы даў слова аўтарцы альманаху сп-ні Ірыне Хадарэнка, і яна пачала свой выступ неардынарна, прачытала два свае вершы на ангельскай мове. Затым прамоўца распавяла пра сваю задуму перакласьці вершы Ўолта Ўытмана па-беларуску, і пра тыя пераклады, што апублікаваныя ў сёлетнім нумары. Наагул, ужо існавала некалькі беларускіх перакладаў Ўытмана, у тым ліку Янкі Сіпакова і Юліі Цімафеевай, але калі аўтарка чытала іх, і бачыла хібы, недакладнасьці, вольнае абыходжаньне з тэкстам, гэта нарадзіла ўнутраны пратэст ды імпэт узяцца ды перакласьці самой. Вынікам сталі шэсьць перакладзеных на беларускую мову вершаў амэрыканскага паэта, якія выносяцца на суд чытачоў. Сёлета Амэрыка і цэлы сьвет адзначаюць двухсотгодзьдзе народзінаў Ўытмана, і гэтыя пераклады – ушанаваньне памяці вялікага паэта, які прамаўляў да ўсіх людзей, а значыць і да беларусаў. Чаму ўсё ж Ўытман? Хацелася давесьці, што амэрыканская культура гэта на самой справе ня толькі й ня столькі маскультура, якая найперш кідаецца ў вочы і прыцягвае ўвагу. Тым хто тут жыве варта ведаць гісторыю і культуру краіны, ведаць пра іншыя, глыбейшыя, выкшталцонейшыя плыні ў амэрыканскай культуры і літаратуры, але пры гэтым, натуральна, памятаць пра свае карані. І ў гэтым акурат дапамагае Ўытман. Ён быў адкрыцьцём, поўны псыхалягізму, глыбокіх ідэяў. І вось гэта – сапраўдная амэрыканская літаратура. А наагул, кожная краіна спазнаецца па ейнай літаратуры, і таму пераклад і распаўсюд беларускай ліатаратуры – гэта важная задача для падвышэньня профілю Беларусі, беларускай культуры ў сьвеце.

Затым сп. Сяржук Сай распавёў пра свой канал на Ютубе “Крумкач Беларускі”, дзе стаяць праекты, зробленыя сумесна з Ірынай Хадарэнка, і запрасіў прысутных далучацца да прагляду ў сеціве, абмяркоўваць, крытыкаваць.

Сп-ня Валянціна Трыгубовіч распавяла пра важнасьць літаратуры на эміграцыі і пра пісьменьнікаў, архівы якіх захоўваюцца ў Нью-Ёрку ў Фундацыі Пётры Крэчаўскага, якая нядаўна адзначыла сваё 60-годзьдзе. Сп-ня Трыгубовіч распавяла пра калекцыі дакумэнтаў і кнігі, што захоўваюцца ў Фундацыі Крэчаўскага, фонды Ю. Віцьбіча, А. Адамовіча, паэтаў М. Кавыля, Р. Крушыны, пра лісты Міколы Абрамчыка і Ларысы Геніюш. Сп-ня Трыгубовіч запрасіла моладзь наведаць Фундацыю Крэчаўскага і зьвяртацца туды па беларускія выданьні, што перахоўваюцца ў яе калекцыях.

Наступным выступіў аўтар альманаху сп. Віталь Зайка. Ён падзякаваў рэдактару за мажлівасьць выдаваць свае творы і пра патрэбу прыцягненьня да выданьня ўвагі літаратурных крытыкаў, што магло б паспрыяць удаскананаленьню літаратурнай творчасьці аўтараў, так і падвышэньню бачнасьці альманаху ў літаратурных і чытацкіх колах на Бацькаўшчыне і за яе межамі.

Сп. Марат Клакоцкі адзначыў, што ў свой час праз пасярэдніцтва сп. Віталя Воранава крытычныя агляды выпускаў “Беларуса” рабілі вядомыя літаратуразнаўцы Ганна Кісьліцына і Ціхан Чарнякевіч. У будучым, магчыма, зьявяцца творы ў галіне літаратурнай крытыкі, якія будуць потым апублікаваныя і ў альманаху.

Затым сп. Сяржук Сокалаў-Воюш працягнуў аповяд пра аўтараў штогадовіка, якіх ён ведае асабіста, і якія жывуць у іншых краінах і ня могуць прысутнічаць на прэзэнтацыі. Сярод іх Якуб Лапатка, які, дарэчы, таксама пачынаў сваю літаратурную творчасьць у Наваполацку, як і сп. Сокалаў-Воюш. У Наваполацку, наагул, падабралася група пісьменьнікаў, сярод якіх, акрамя ўзгаданага ўжо Якуба Лапаткі, былі такія аўтары альманаху як Іна Снарская і перакладчык і паэт Алег Мінкін. Усе яны былі сябрамі літаратурнага аб’яднаньня “Крыніцы” пры наваполацкай газэце “Хімік”. Сярод іншых вядомых пісьменьнікаў у “Крыніцах” былі Ўладзімер Арлоў, Лявон Неўдах, Навум Гальпяровіч, Юрась Касьцюк, Вінцэсь Мудроў, паэтка Валянціна Аксак, і Алесь Аркуш – паэт і арганізатар літаратурнай прэміі “Гліняны Вялес”, на вершы якога была створаная большасьць песьняў вядомай у свой час рок-групы “Мясцовы Час”.




Сп. Сокалаў-Воюш адзначыў патрэбу камунікаваньня паміж творцамі ў галіне літаратуры, і патрэбу разьвіцьця майстэрства, патрэбу пэўнай школы, кшталту таго ж літаратурнага аб’яднаньня “Крыніцы”. Важна, калі твае творы нехта чытае і дае свае заўвагі, парады, асабліва калі гэта твой калегалітаратар. Сп. Сокалаў-Воюш таксама, як аўтар альманаху, адказаў на пытаньні пра слоўнікі беларускай мовы, якімі карыстаецца ў пісьменьніцкай дзейнасьці, і пра сваю ўласную творчасьць.

Затым ад імя прысутных сп-ня Ганна Шарко і сп-чня Жэня Кавальчук павіншавалі рэдактара з выхадам новага выпуску і перадалі торт і паштоўку з пажаданьнямі. Пасьля заканчэньня афіцыйнай часткі сьвяткаваньне працягнулася ў нефармальнай атмасфэры пры віне і пачастунках . Жадаючыя мелі нагоду набыць новы нумар штогадовіка, а таксама выпускі з папярэдніх гадоў.

***Віталь ЗАЙКА***

Беларусь – Амэрыка: лёсы землякоў

# Тэатральны, музучны і грамадзкі дзеяч Вячаслаў Селях-Качанскі

Выдатны беларускі сьпявак, барытон і грамадзкі дзеяч Вячаслаў Селях нарадзіўся 25 сьнежня 1885 году ў Лагойску. Вучнем сьпяваў у царкоўным хоры, і настаўнікі знаходзілі ў яго добры музычны слых і прыгожы голас.

Вячаслаў Селях скончыў у 1905 годзе Маладэчанскую настаўніцкую сэмінарыю, нейкі час працаваў настаўнікам пачатковых клясаў. Затым перабраўся ў Лібаву (цяпер Ліепая, Латвія), быў рэгентам у царкоўным хоры, сьпеваком у аматарскіх пастаноўках. У 1910 годзе Селях пераехаў у Пецярбург і паступіў у опэрную клясу кансэрваторыі, дзе і атрымаў пастаноўку і апрацаваньне свайго выдатнага голасу – драматычнага барытону-басу. Паралельна з вучобаю В. Селях у 1913 годзе становіцца артыстам Тэатра музычнай драмы, а з 1915 году, скончыўшы Пецярбургскую кансэрваторыю, робіцца салістам славутага Марыінскага тэатру, адным з найлепшых у сьвеце. Конкурс быў вельмі высокі, спаборнічалі больш як 350 сьпевакоў. Камісія тэатру, начале з выдатным дырыжорам Эдуардам Напраўнікам, выбрала толькі двух фіналістаў – Вячаслава Селяха і адну сьпявачку (лірычнае сапрана).

У тэатры Селях выконваў вядучыя партыі ў опэрах “Казка пра цара Салтана”, “Барыс Гадуноў”, “Хаваншчына”, “Князь Ігар”, “Царская нявеста” ды іншых. Адначасна ў 1916-1918 гадох Селях выступаў у Александрынскім тэатры. Ён удзельнічаў у пастаноўках сумесна са славутымі артыстамі той пары, у тым ліку Ф. Шаляпіным. У 1917 годзе Селях падтрымаў бальшавіцкі перакул і нават езьдзіў у тэатральных групах з пастаноўкамі для чырвоных войскаў і рабочых, але, сутыкнуўшыся з жахамі вайны, перагледзеў сваё стаўленьне да бальшавізму.

На прапанову Ўсевалада Ігнатоўскага, які ўзначальваў Інстытут Беларускай Культуры (Інбелкульт), Вячаслаў Селях у кастрычніку 1924 году вярнуўся ў Беларусь, каб аддаць свой досьвед і талент разьвіцьцю беларускай культуры. У тыя часы патрыёты, якіх потым назвалі “нацдэмамі”, прыцягвалі да культурніцкай працы беларусаў, якія рэалізавалі свае таленты паза Беларусьсю. Здольнасьці Вячаслава Селяха былі запатрабаваныя падчас правядзеньня палітыкі беларусізацыі.

У тым жа 1924 годзе Вячаслаў Селях стаў кіраўніком музычнай падсэкцыі Інбелкульту, і выкладчыкам опэрнай і харавой клясаў Беларускага музычнага тэхнікуму. Сярод ягоных вучняў была славутая беларуская сьпявачка Ларыса Александроўская. У 1926 годзе Селях арганізаваў Беларускі студыйны хор, які ў 1928 годзе быў пераўтвораны ў Беларускую дзяржаўную капэлю (цяпер Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла Беларусі). Селях запрасіў да працы на беларускай музычнай ніве такіх вядомых прафэсіяналаў як Грыневіч, Тэраўскі, Шнітман і Аладаў. Дзякуючы намаганьням Вячаслава Селяха, быў гарманізаваны шэраг беларускіх народных песьняў, сярод якіх “А ў бары, бары”, “Ой, рана на Йвана”, “Маладая дзяўчынанька”, “Ой, ляцелі гусі”, “Як у полі” ды іншыя, і таксама папулярны народны танец “Крыжачок”.

Як галоўны рэжысэр БДТ-1 (Белдрамтэатар у Менску), Селях у 1927 годзе паставіў першую опэру на беларускай мове “Русалка” А. Даргамыскага, дзе таксама выканаў адну з галоўных роляў – Млынара. Па словах тэатральнага крытыка Юльяна Дрэйзіна, існаваньне нацыянальнае опэры ёсьць адзін з самых неабходных элемэнтаў разьвіцьця нацыянальнае беларускае культуры наогул”.

З 1927 года Селях быў дырэктарам БДТ-1, ён рэарганізаваў тэатар, спрычыніўся да шэрагу новых пастановак, настойваў на ўжываньні беларускай мовы ў працоўны час. Ён адмаўляўся зьняць з рэпэртуару спэктаклі “Кастусь Каліноўскі”, “Над Нёмнам”, “Каваль-ваявода”, што лічыліся “нацдэмаўскімі”. Нягледзячы на выдатныя посьпехі калектыву і прызы на тэатральных алімпіядах у Маскве, В. Селях хутка быў выдалены з пасады па абвінавачваньні ў “нацдэмаўшчыне”.

З 1930 году ён працуе дырэктарам Беларускага тэатральнага тэхнікуму і загадчыкам Беларускіх драматычных курсаў. Вячаслаў Селях дбаў пра сваё ўласнае выканаўчае майстэрства сьпевака і рэгулярна выступаў на сцэне. У ягоным рэпэртуары былі творы Шубэрта, Леанкавала, Грыга, Альнэса, Сібеліюса, Грачанінава, Рахманінава, Глазунова ды іншых кампазытараў, якія гучалі на беларускай, расейскай і яўрэйскай (ідыш) мовах. У 1932 годзе пры непасрэдным удзеле Селяха былі створаны два новыя тэатры – Першы Беларускі вандроўны калгасны тэатар і Вайсковы тэатар.

Напачатку 1930-х гадоў узмоцнілася сталінская палітыка выкараненьня беларускага патрытызму, што прыняла форму “барацьбы супраць нацдэмаў”. Вячаслаў Селях быў папярэджаны пра маючы адбыцца арышт і вырашыў зьехаць зь Беларусі ў Ленінград, горад, дзе прайшлі ягоныя зорныя часы як опэрнага сьпевака. Там з 1933 году ён, працуе намесьнікам дырэктара Опэрнай студыі імя Рымскага-Корсакава, рэжысэрам Вандроўнай опэры Ўсерасійскага тэатральнага таварыства. Але рэпрэсіі вымусілі пераехаць ізноў. З 1937 году Селях працаваў ва Ўкраіне ў доме культуры ў Чаркасах. Праз два гады ён трапіў у Лугу пад Ленінградам і, калі прыйшлі немцы, арганізаваў канцэртна-эстрадную групу і хор, што выступалі на акупаваных немцамі абшарах.

Селях быў тады ўжо перакананым антыкамуністам, і жыцьцё пад Саветамі паказала, што разьвіцьцё беларускай нацыі можа адбывацца толькі рукамі беларускіх патрыётаў. Негатыўны досьвед кантактаў зь немцамі яшчэ больш пацьвердзіў гэта. Сьпявак вярнуўся ў Беларусь і з 1943 году быў кіраўніком гарадзкога аддзелу культуры і мастацтва пры Беларускай Народнай Саамапомачы ў Менску і адначасова кіраўніком і галоўным рэжысэрам Менскага гарадзкога тэатру. Разам з Тодарам Лебядою паставіў ягоную пьесу “Загубленае жыцьцё”. У лютым 1944 году Селях узначаліў аддзел культуры пры Беларускай Цантральнай Радзе (БЦР), пазьней у тым жа годзе перабраўся ў Бэрлін. Там Селях разам з кампазытарам Міколам Равенскім пры прапагандысцкай нямецкай установе “Вінета” стварыў канцэртна-эстрадную групу “Жыве Беларусь”, якая выступала перад остарбайтарамі ды жаўнерамі зь беларускіх вайсковых адзінак, што апынуліся ў Нямеччыне.

Пасьля вайны В. Селях жыў у ДП-лягерох у Нямеччыне, арганізаваў Беларускі драматычны тэатар імя У. Галубка, з трупаю якога 28 сакавіка 1948 году ў лягеры Міхельсдорф паказаў пьесу Т. Лебяды “Загубленае жыцьцё”. Адначасова ён ладзіў канцэрты, зь якімі выступаў у ДП-лягерах. У 1949 года ён пераехаў зь Міхельсдорфу ў лягер Бакнанг, дзе выступы хору пад ягоным кіраўніцтвам быў запісаныя на магнітныя стужкі, і запісы былі перададзеныя ў ААН. Хор В. Селяха нагул лічыўся адным зь лепшых у амэрыканскай зоне акупацыі.

У 1950 годзе В. Селях прыехаў у ЗША і далучыўся да беларускага грамадзкага жыцьця. Каб атрымаць сацыяльнае забясьпечаньне, ён першыя тры гады працуе рабочым на фабрыцы ў горадзе Саўт-Рывэр (штат Нью-Джэрзі). Ён стаў кіраўніком аддзелу культуры і мастацтва ва ўрадзе адноўленай Беларускай Цэнтральнай Рады (БЦР), быў сябрам яе кан-

*заканчэньне на бачыне 4*

## “Галгатня пра ЗыШыА”

# Грэта Айсбэрг

Як выправіць грымасу Грэты? Куды зьвяртацца? Хто адкажа за траўму?

Дайшлі да ручкі – што называецца. Цягаюць бедную дзяўчынку. Пішуць ёй прамовы. Потым прымушаюць вучыць на памяць, бо гаварыць з галавы Грэта ня ўмее. Адказваць на пытаньні таксама. Гэта добра бачна на адным відэа. Бяздушнае выкарыстаньне хворай у сваіх палітычных мэтах. Гульня на інфантыльнасьці публікі, якая, са свайго боку, таксама перайшла праз рубікон імбіцыльнасьці. Дзяўчынка, быццам скандынаўскі сыр на швэдзкім масьле, яхтаю расьсякае акіяны (маўляў, каб ня лётаць самалётам), пасьля на поўным сур'ёзе расказвае з трыбуны пра сваё зьнішчанае дзяцінства. І ўсё гэта толькі для таго, каб сказанае немагчыма было аніяк пракамэнтаваць, хіба апрача пацісканьня плячыма.

Любы камэнтар будзе ўспрыняты як маладушнасьць. Які дурны будзе казаць, што з экалёгіяй ня трэба нічога ра-




біць? Хто будзе спрачацца, што чалавецтва выкарыстоўвае прыродныя рэсурсы празьмеру і засьмечвае Зямлю пластыкам? Ну хіба, што нейкая арганізацыя або ўрад заявяць, што гатовыя перамагчы глябальнае пацяпленьне, пахаладаньне, або любую іншую прыродную зьяву. Толькі дайце нам мільярды грошай, не пашкадуйце на плянэту. Мы закрыем вашыя шахты, заменім вам традыцыйныя печкі на экалягічныя, пасадзім на дарагія электрамабілі, падорым вам ілюзію і хіпстарскую самазадаволенасьць, а пры нагодзе зробім гэты працэс сваёй прафэсіяй і залатой жылай свайго кляну.

А ў гэты ж час 99% жыхароў плянэты будуць працягваць сваё звычайнае існаваньне, з усімі ягонымі плюсамі і мінусамі. А калі ў вас хопіць нахабства пачаць весьці з намі аргумэнтаваную спрэчку, то мы пакажам вам Грэту. А калі ў вас, як у Трампа, хопіць нахабства яе не заўважыць – мы пакажам вам і вас саміх. Якія вы дрэнныя і нячулыя. Якія пачварныя і агідныя. Цьфу на вас!

**Віталь ВОРАНАЎ**

# Вячаслаў Селях-Качанскі

*заканчэньне з бачыны 3*

трольнай камісіі. Неўзабаве Селях заснаваў Беларускую тэатральную студыю, якая паставіла на амэрыканскай зямлі пьесу Ф. Аляхновіча “Шчасьлівы муж”, “Пінскую шляхту” В. Дуніна-Марцінкевіча (1955), у якой сам Селях выконваў ролю Куторгі, пьесу “Нясьмелы жаніх” (аўтар невядомы, 1957), “Дажынкі” І. Кіпрук (1957). Таксама Селях працаваў рэгентам у царкоўным хоры ў г. Элізабэт. Памёр Вячаслаў Селях 8 жніўня 1976 году і пахаваны ў Саўт-Рывэры.

В. Селях быў аўтарам твораў царкоўнай музыкі, харавых кампазыцыяў і песень на вершы беларускіх паэтаў. У шматлікіх артыкулах, у тым ліку ў расейскамоўным друку, Селях абараняў пагляды беларусаў на аднаўленьне незалежнасьці Бацькаўшчыны. Ён зьмяшчаў шмат артыкулаў і нататак-успамінаў пра мастацкае жыцьцё ў Беларусі, дзяліўся сцэнічным досьведам, даводзіў свае пагляды на разьвіцьцё нацыянальнай культуры. Напрыканцы свайго яркага і багатага на падзеі жыцьця В. Селях падрыхтаваў да выданьня “Сьпеўнік жаўнера” (1975 ), у якім былі сабраныя народныя, побытавыя, нацыянальныя, патрыятычныя песьні. Зборнік стаў добрай памяцьцю самому Вячаславу Селяху, які ўсё жыццё марыў, каб беларуская нацыянальная культура разьвівалася й квітнела вольна і без уціску ды атрымала прызнаньне ў сьвеце.

**Віталь ЗАЙКА**

### Уплаты ў Згуртаваньне
**Складкі й ахвяраваньні:**

| | |
|---|---|
| В. Багушэвіч | 60 |
| В. Міклашэвіч | 60 |
| В. Радзько | 60 |
| С. Радзько | 60 |
| А. Тоўсьцік | 60 |
| А. Ярашэвіч | 60 |

**Усім шчыры дзякуй!**

### Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:
***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***

**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” *Viktar Yedzinovich.***

## Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**
адбудзецца ў суботу **14-га сьнежня 2019 году** ў Доме Маракоў на Мангэтане па адрасу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падзямкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да прыпынку **Union Square**.*

*Будынак Дома Маракоў знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад **Union Square** па **15-й вуліцы** на скрыжаваньні з **Irving Place**.*

Заля сходаў на 2-м паверсе.
Пачатак: **а 6-й** гадзіне вечара.

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:

| | |
|---|---|
| А. Кавальчук | 30 |
| В. Кавалёва | 30 |
| В. Міклашэвіч | 30 |
| С. Радзько | 30 |
| А. Тоўсьцік | 30 |
| В. Трыгубовіч | 30 |
| А. Ярашэвіч | 30 |
| Я. Кацярыніч | 20 |

**Шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” **Viktar Yedzinovich**.*